# Літаратурная старонка

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'ядвання ў Беластоку №_ 21

## АЛЕСЬ БАРСКІ

Сатырычныя вершы з цыкла »Да«

### ДА АКТОРКІ

Прыкінуцца дык ты умела,
Ігрaла ў ролях супярэчных.
Была чарнявaю і белай.
То маладою, то старэчай.
Была какеткай, жонкай вернай,
І працавітай і лянівай,
Гарэла хараством бязмерным,
Або агідай нешчаслівай.

А я штодзённа цябе бачу,
Суседзі мы, жывем за плотам.
І бестактоўнасць мо' прабачыш,
Калі цябе спытаю «хто ты?».

### Да зайца

Жыццё, як рэдзька, надаела.
Няма чым, кажаш, пахваліцца.
І не з дабра ты ранкам белым
Ішоў да возера тапіцца.

Дзівак ты, дружа неразважны,
Назву цябе найгоршым — бабай.
Ты зараз можаш стаць адважным
І настрашыць не толькі жабу

Ці ж не спалохаў чалавека,
Калі ляжаў, як рыжы камень.
Ты толькі ў псіхіцы калека,
А сапраўды дык роўны з намі.

Па-сутнасці, усе мы трусы,
Больш годнасці, у гору вусы!

### ДА КАНЯ

Ніхто не змог бы палічыць
Бічоў, якія паласкалі тваё скабы.
Не мог ты нават добра адпачыць,
Не ведаў, што такое радасць

Цябе кармілі і аўсом і палкай,
Таўклі па плечах і па твары.
І калі дома гаспадар меў сварку
Цябе па храпах шчодра жарыў

Жывеш ты безупынна ў муцы,
Бо кожны дзень бічы трывожаць...
Вядома, ты не зробіш рэвалюцыі,
Але нагою ў зубы стрэліць можаш!

### ДА КНІЖКІ

Ад розуму ты пабялела,
Бяздонныя твае крыніцы.
І многа цёмных і няўмелых
Змагла чагосьці навучыці.

Але сустрэў я чалавека...
І загудзеў ён фразай звонкай,
Назваў ён аўтара няўмекай,
Дурною кожную старонку

У галаве яму не пасвятлела,
Ды ты ад гэтага на шчасце
не счарнела.

## С. ЗАСТАВІН: КАНДРАТАЎ СОН

(Працяг са стар. 1)

Прызнацца, хоць мужыкам я не раз у другіх справах раіў ахвотна, тут сам разабрацца не магу. Паслухайце вы, можа вам справа ясней пакажацца? Так і пішу: «Кандратаў сон» (бо ўсё гэта, як сам Кандрат мне правіў, ноччу здарылася), а разбірайце, як хочаце. Ды злом не памінайце: расказваю, як умею, а расказваць дзед яшчэ мой мяне вучыў, а ў раўню дзеду быў хіба толькі дзядзька Фёдар, ды той за дзедам на той свет пайшоў.

*

Рагаты месяц нырнуў за Амельянаву крышу так шпарка, што пячнік Кандрат, які гэтым вечарам больш звычайнага ў царкоўнага старасты за бутэлькаю прасядзеў, рот толькі паспеў ва ўсю шырыню разявіць.

—Ннnуу... — здзіўлена прамармытаў ён. Падрапаўшыся па затылку ён гікнуў... і замёр: гікнула ля Амельянавай клуні.

— Якога чорта, — праказаў, не разумеючы нічога і цяжка ўставіўся на клуню. «...оогаа чорта», — данеслося ад Амельянавай сцепкі.

— Цьфу, растуды тваю маць! — не вытрымаў здзекаў Кандрат і павярнуўся да сцепкі. «Га, га, га, га,» — паляцела па вуліцы з-пад сцяны вясковай лазні, што насупраць Амельянавай хаты за вуліцай стаяла.

І толькі тут захмялеўшы пячнік заўважыў цемру, пануючую навокал яго. На душы старога Кандрата зрабілася неяк сумна. З канца вёскі пачуўся праціўны сабачы

Бяду чуў пячнік, а на бяду ён меў заўсёды прызапасенае лякарства. Пашарыўшы ў глыбокай кішэні сваіх шырокіх нагавіц, ён выцягнуў чацвяртушку, пацягнуў з ле і адразу павесялеў.

Хто з нас не знае гэтага настрою. Якое б гора не душыла, заглянеш у чарку — і бяды няма, рукою адняло! І песня, чуеш, з'явіцца, неведзь скуль, ды як зацягнеш міма-волі! Эх! А Кандрат? Ён першы да гэтага. І таму першы раз у сінім небе, недалёка ад Месяца, паплыла, слаўная з кожных хрысцін, гасцін і вяселляў, песня «Распрагайце, хлопцы, коней».

Кандрат быў галасісты, і хіба апошняе змусіла чорта на доўгі маналог:

—Маўчы ты, дурню, — нерваваўся ён, — прабудзіш Лайку, і бяды набярэмся. Калі б не ляцеў, брэша. Ходу нам ад яе не стала. Даўней куды дарога прасцейшая ў пекла была. А цяпер, калі яе ў неба запусцілі, кругом мінаць трэба. Ды і так здалёк чуе.

— А ты што гэта там хлябнуў? — звярнуўся ён да Кандрата голасам куды прыхільнейшым, чым гэта было яшчэ некалькі хвілін таму назад. — То-то нам, браце, усё відна! Давай сюды!

І Кандрат воляй - няволяй запусціў руку ў доўгую кішэню сваіх шырокіх нагавіц другі раз.

Дарога куды прыемнейшаю паказалася, калі чорт, і сам хлябнуўшы, распусціў свой дагэтуль прыкушаны язык. На прапанову Кандрата заспяваць «Раждзяство

вой: «Хухалява», — паспеў падумаць яшчэ пра сябе пячнік і адчуў, як рэдкі волас на яго вузкай галаве пачаў падымаць махнатую шапку, а ногі яго, заўсёды такія вяртлявыя і неспакойныя, быццам прыраслі да зямлі.

— Ратуйцеее!... — слабеючым голасам прахрыпеў Кандрат, усім целам сваім адчуваючы аднак, што ніякага ратунку тут і быць не можа і ніцма шлёпнуўся на свежы, мяккі снег.

Як доўга ляжаў так наш маладзец на снегу, сказаць цяжка. Вясковы маляр - самавук, бывала, і тры дні патрапіў на зямельцы сырой, ды яшчэ пад дожджыкам, камнем праляжаць, але гэта ж, як бы не было, мастак! А старому Кандрату да мастака было яшчэ далёка.

Таму і думаецца мне, Кандрат доўга ляжаць не мог. Сам жа кажа, што абудзіла яго рэзкае паветра ўжо тады, калі роднае вёскі на Зямлі дагледзіць не можна было, ды і самая Зямля не выглядала большай за працертую задніцу яго старых нагавіц.

Перш за ўсё Кандрат паправіў на галаве сваю махнатую шапку, якую цяг паветра тут-як-тут мог сарваць з галавы, і ачмурэлым вокам пакаціў у бакі.

У чорнай бездані неба, быццам вялікія фанары, падвешаныя клапатлівым гаспадаром, боўталіся бліскучыя зоркі. З левага боку пячніка красаваўся рагаты, вясёленькі месяц.

Кандрат глянуў уніз і стырчастыя бровы яго павольна папаўзлі ўверх галавы, крануліся махнатае шапкі, лёгка паднялі яе і яшчэ мягчэй апусцілі на папярэдняе месца: у неба чыстае і халоднае нёс Кандрата сапраўдны чорт!

Пусціўшы плаўна доўгі хвост, чорт стараўся, як мог. На барадзе яго чырванеў шырокі, лапацісты язык, далікатна прыкушаны верхняю губою, што, як вядома, і сярод чарцей азначае надзвычайную заўзятасць.

Чортава злаўрэднае вока непрыхільна касілася ад часу да часу на анямеўшага Кандрата, і думкі ў галаве апошняга пачалі ганяць адна другую што раз, то хутчэй, а цела шпарка вярцецца.

Чорт на гэта злосна зашыпеў і доўгім хвастом сваім балюча стукнуў пячніка ў патыліцу.

Прыціх Кандрат і амаль да самага Месяца, скурчаны на сухім хрыбце чортавай спіны, стаў горка раздумваць. А было аб чым.

Чорт дарэмна не валок яго. Тут штосьці было сурёз'нае. І першы раз за доўгія гады свайго неспакойнага жыцця ў вачах Кандрата прадставіўся доўгі рад раз'яраных суседзяў: і тых, якім так і не закончыў наладку пячэй, і тых, у якіх пасля кожнай наладкі яны занова распадаліся.

Хрыстова», ён яўна адмовіўся, але некалі падслуханы Кандратам старынны напеў « Свінні ў рэпе, свінні ў рэпе, парасяты ў рэдзьцы», яны спявалі згодна і безупынна да самага канца гэтага незвычайнага падарожжа.

*

О, пекла, ніяк не было падобна да таго, якое сам Кандрат аглядаў у вясковай царкве ля левага крыласа. Там чэрці, падфарбаваныя фантазіяй нашага маляра - самавука, былі не на столькі праціўныя, на колькі злаўрэдныя. Кажуць у вёсцы, гэта быццам таму, што, калі поп адмовіўся маляру за вобраз заплаціць, той ноччу ў царкву залез і ў пацемку вобраз па злосці падмалёўваў.

Ды хто яго толкам ведае, як тут справа была.

А вось у сапраўдным пекле выгляд чарцей паказаўся Кандрату такі жаласны, што сэрца яго безвольна сціскалася.

Бяздзелле панавала навокал яго: печы ў пекле не дымілі, у катлах стаяла застыўшая смала, а чэрці цягаліся з кутка ў куток без усякае прычыны.

І тут Кандрат, які амаль што ўсякую блытаніцу, дзякуючы біблii, развязаць умеў, разгадаў прычыну свайго падарожжа: чэрці патрабавалі пячніка!

Акрыяў Кандрат і, выпучыўшы вузкія грудзі колам пакаціўся ў самую гушчу чарцей.

— Што, братцы, няма ходу без пячніка! Га? — І як не пачаў у гэтым тоне далей, як не пусціў, стары, вярцець языком перад аслупянеўшымі чарцямі!

А язык у Кандрата, як і ногі, шпарка хадзіў, што і гаварыць. Ён не заўсёды, не скажу, але патрапіў нават старасту царкоўнага ў дыскусіі да таго з панталыку збіць, што той ў пошуках аргументаў, бывала, за Кандратаву лысіну хапаўся, і народ разводзіў абодвух.

Упраўны быў пячнік, упраўны!

Так вось і тут, распусціўшы язык, ён, хто яго ведае дакуль ім вярцеў бы, каб не заўважыў, што чарцей ля яго ўжо даўно няма, а навокал запанавала злаўрэдная цішыня.

— Га! Не сцярпелі, — праказаў Кандрат, але азірнуўшыся назад, захлябнуўся страхам, як гарачым баршчом: у трох кроках ад яго стаяў страшэнны чорт. Не трэба было Кандратавага розуму, каб дагадацца, што гэта, калі не сам Люцыпар, дык што найменш яго намеснік.

— Ну, — грозна сказаў той, адваліўшы ў праціўнай ўсмешцы велізарную губу, над якою вісеў гаплюкаваты, не меншай велічыні насішча, крошля ў кроплю як у старога Віктара. — Ну, — паўтарыў ён, расставіўшы шырока ногі, — разбалтайся стары дурню! Распусціў язык! Што? Грэшная душа твая!

(Працяг на стар. 8)

